«Сіла, брат, у грамадзе!»
Я. КОЛАС

# Сумежжа

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Выдаецца з ліпеня 1991 года

№ 7 (72) | ЛІПЕНЬ 1995 ГОДА | Цана дагаварная

ПЫТАЛІСЯ — АДКАЗВАЕМ

## „Сумежжа" ніхто не прыкрываў

Што здарылася з газетай «Сумежжа», няўжо вас прыкрылі? Менавіта з такімі пытаннямі звярталіся да нас людзі. Сапраўды, наша выданне не выходзіла на працягу двух месяцаў, але толькі па прычыне адсутнасці грашовых сродкаў. Наогул згодна закона любую газету забараніць можа толькі суд ва ўстаноўленым парадку, калі для гэтага маюцца падставы. «Сумежжа» ніводнага разу існуючыя законы не парушала.

З іншага боку мы шчыра ўдзячны тым падпісчыкам, што засталіся з намі. Зараз мы атрымалі магчымасць аднавіць выпуск газеты, з боку заснавальнікаў абяцана падтрымка, каб і ў далейшым «Сумежжа» выходзіла рэгулярна. А пакуль прабачце і зразумейце нашы цяжкасці. Да новых сустрэч, сябры!

## Год з Прэзідэнтам: сумныя вынікі




Добрыя былі намеры, шмат спісалася паперы... Толькі вынікаў няма.

xx Валавы ўнутраны прадукт скараціўся за год на 12%.

xx Буханка хлеба летась каштавала 30 рублёў, стала — 1500. У 50 разоў больш.

xx Знешняя запазычанасць за год узрасла ў 1,5 раза і толькі Расіі за газ складае 4,6 трыльёна рублёў.

xx Сёння 80% прадпрыемстваў на мяжы банкрутцтва, амаль дзве тысячы стратныя.

xx Беспрацоўных цяпер стала амаль 110 тысяч чалавек.

xx За год яшчэ на 20% да ўзроўню мінулага года ўзрасла злачыннасць.

xx Прыватызацыя не ідзе, прыватызавана толькі 5% уласнасці, нават не падпісана праграма прыватызацыі на бягучы год.

xx Амаль поўнасцю правалена праграма неадкладных мер па выхаду з крызісу.

xx Адзіны сціплы вынік — зніжэнне інфляцыі да ўзроўню не менш 10% у месяц, ш яшчэ занадта многа, дасягнуты без удзелу Прэзідэнта.

xx Працяглыя затрымкі з выплатамі заробкаў, пенсій, катастрафічнае збядненне большасці насельніцтва.

## ШТО НА АБЕД У „ВЕРТЫКАЛІ"

Пасля завяршэння рэспубліканскага семінара-нарады пад Гроднам, у якой удзельнічаў і адзін з намеснікаў старшыні Пастаўскага райвыканкама, непадалёку ад Палаца культуры калгаса «Кастрычнік» былі накрытыя сталы. Для А. Лукашэнкі — у адным будынку, для лепшай часткі «вертыкалі» — у вялізным рэстаране (меньш «вертыкальных» адвезлі кудысьці ў суседнюю вёску).

Да здзіўлення асобных прысутных, у вушах якіх яшчэ гучалі заклікі клапаціцца аб простым народзе, сталы адрозніваліся, мякка кажучы, разнастайнасцю. У якасці напіткаў былі прапанаваны каньяк «Напалеон», водка «Крышталь» і «Савецкае шампанскае». Сярод закусак можна было знайсці традыцыйныя сухія каўбасы, пяшчотны кумпячок, гарачыя «паляўнічыя каўбаскі», нешта на палачцы, загорнутае ў фальгу, персікі і яблыкі. а яшчэ мноства малочных парасят, фаршыраваных грэчневай кашай і абсыпаных пятрушкай, укропам. долькамі памідораў і агуркоў.

У выніку выпіта было нямала, але ад асабліва вострых тэмаў «вертыкаль» яўна ўхілялася і песень не зацягвала. А дзесятай гадзіне ўсе вярнуліся ў Гродна і раз'ехаліся па дамах. Гісторыя развіваецца сапраўды па спіралі: адраджэнне «слаўных» партгасактываў пры адсутнасці парткантролю і наяўнасці адзінай «вертыкалі» пачалося на якасна новым узроўні.

x x x

Ну а перад гэтым з «падвядзеннем вынікаў» выступіў Прэзідэнт. Ягоную прамову шырока асвятлялі афіцыйныя сродкі друку, а мы пазнаёмім з тым, што засталося за кадрам як заўсёды яркай імправізаванай прамовы Лукашэнкі. Вось найбольш адметныя яго думкі:

— После того, как мы сбросили эту заразу, у нас абсолютная власть. Чего же вы ждете? Чего вам не хватает?

— Мы должны поддержать простого человека, мы пришли к власти с его помощью. При другой власти ни мне, ни вам места не будет. Если понадобится, прокуратура (хватит им ходить с синими носами) и КГБ будет пристегнута к местной власти (зала ўзарвалася апладысментамі).

— Не толкайте меня к диктатуре, у вас у первых кости затрещат.

*Пётр Літвіновіч*

## ТАМУ ШТО БАЛІЦЬ

Жыў так, як і ўсе, меў прыбытак на потым,
Ды ў міг апынуўся за рысай бядноты
Часцей цішыня ў кішэнях звініць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Вакол паглядзі, што зрабілася ў свеце,
Хто «Снікерс» жуе, а хто задніцай свеціць,
А гэты гатоў за капейку забіць
Каму што баліць, каму што баліць.
Мужык заліваецца потам ці водкай,
У калгасе жывецца не дужа салодка.
Усё трэба ў час: і араць, і касіць
Каму што баліць, каму што баліць.
Працуй і маўчы, тады будзеш харошы,
Праз месяц, другі аддадуць табе грошы,
Бо ёсць гаспадарка і зможаш пражыць.
Каму што баліць, каму што баліць.
А сам старшыня не зламаў завядзёнку
У сталіцы кватэры на цешчу і жонку,
Над возерам гмах нібы з казкі стаіць.
Каму што баліць, каму што баліць.
З будоўлямі толькі б успець разабрацца,
Няма гаспадаркаю часу займацца
Скаціну дарэзалі — нечым карміць.
Каму што баліць, каму што баліць.
У горадзе косіць усіх беспрацоўе
Хоць ёсць галава, ды хапае здароўя
Работы няма. Як дзяцей пракарміць?
Каму што баліць, каму што баліць.
І едзе натоўп «чаўнакоў» у Расею
Бо лепш прадаваць, чым касіць альбо сеяць.
Хто грошы прыдбаць, хто галечу прыкрыць
Каму што баліць, каму што баліць.
Паны адышлі, але ёсць дэпутаты
Іх, як паглядзець, у сталіцы багата.
Ці лямант, ці храп у троннай зале стаіць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Штодня пасяджэння няма без падзей
Змагаюцца ў кроў за свае прывілеі
Каб лепшы, жырнейшы кавалак схапіць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Народ у галечы: ні грошы, ні мовы,
А ёсць прэзыдэнт, ды і той выпадковы
Бо змог абяцанкамі нас накарміць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Узлез на трыбуну, пакратаў вусамі
Змагаўся, як той Дон Кіхот з ветракамі.
А выбралі — бачым няма што хваліць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Ня быў гультаём беларус аніколі,
Нам толькі б дабіцца да лепшае долі
Ды веру ў гэта жыццё не згубіць.
Каму што баліць, каму што баліць.
Нас многа: пясняр, і аратай, і рабочы,
Нам трэба прайсці і з дарогі не збочыць
Хай у гэтай кагорце й мой голас гучыць
Таму што баліць, таму што баліць.

25.06.1995 г.

